

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 23 (610) 25 ЧЭРВЕНЯ 2003 г.

## Не стала Васіля Быкава



22 чэрвеня ў гадавіну пачатку вайны не стала ветэрана-франтавіка, Народнага пісьменніка Беларусі, Героя сацыялістычнай працы, аднаго з заснавальнікаў Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", Грамадзяніна і Патрыёта **Васіля Быкава.**

Васіль Уладзіміравіч усяго на тры дні пераажыў сваё 79-годдзе. Зусім нядаўна ён вярнуўся з Прагі, як бы прадчуваючы блізкае развітанне з гэтым светам і маючы жаданне зрабіць гэта на роднай зямлі.

У Беларусі пісьменнік заўсёды быў больш, чым проста творца. Васіль Быкаў, дзякуючы свайму таленту і сваёй грамадзянскай мужнасці стаў не толькі сапраўдным народным пісьменнікам, ён стаў сумленнем беларускай нацыі.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы выказвае спачуванне ўсяму беларускаму народу, родным і блізкім вялікага Пісьменніка і Грамадзяніна.

Хай суцяшэннем усім нам будзе тое, што вялікі сын Беларусі ляжа ў зямлю незалежнай краіны, для якой ён і пражыў сваё няпростае, але такое плённае жыццё.

***Сакратарыят ТБМ.***



**19 жніўня ў Старых Дарогах адбылося ўрачыстае святкаванне 79-х угодкаў Васіля Быкава. Кульмінацыяй урачыстасці стала адкрыццё прыжыццёвага памятнага знака на гонар грамадзянскага і творчага вычыну Васіля Быкава.**

**Аднак, мабыць, самім лёсам было наканавана, каб гэты памятны знак стаў і першым помнікам слаўнаму сыну Беларускай зямлі.**

**Васіль Быкаў заслужыў помнік пры жыцці. Пры жыцці гэты помнік і быў пастаўлены, хай сабе толькі на тры дні, але пры жыцці.**

## Візітная картка Беларусі




Візітнай карткай Беларусі стаў Нацыянальны атлас (на здымку). Над яго стварэннем працаваў з 1999 года аўтарскі калектыў больш чым за 200 навукоўцаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, НДІ і ВНУ, прадстаўнікі розных міністэрстваў.

Атлас складаецца з 19 раздзелаў, якія даюць максімальна цэласнае ўяўленне пра тэрыторыю, прыроду, насельніцтва, эканоміку, экалогію. Гісторыю і культуру нашай дзяржавы. Вага новага выдання – 8 кілаграмаў. Гэта ўражвае.

Нацыянальны атлас выдадзены спецыялізаваным прадпрыемствам "Белкартаграфія" накладам дзве тысячы экзэмпляраў.

**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

## Дзяржстандарт зрабіў першы крок, каб ураўняць правы беларускамоўных і рускамоўных спажыўцоў

12 чэрвеня 2003 года на пасяджэнні навукова-тэхнічнай камісіі Дзяржстандарту быў зацверджаны новы стандарт Беларусі СТБ "Тавары нехарчовыя. Агульныя патрабаванні. Інфармацыя для спажыўца", у якім замацавана палажэнне аб тым, што інфармацыя пра тавар даводзіцца да спажыўца на беларускай і рускай мовах. Чальцам камісіі Дзяржстандарту ўдалося зламаць стэрэатып, што ў краіне, дзе дзве дзяржаўныя мовы, не абавязкова жорстка рэгламентаваць выкарыстанне абедзвюх моваў падчас афармлення тавараў. Таварыству беларускай мовы ўдалося пераканаць прадстаўнікоў Дзяржстандарту, што, пакідаючы выбар мовы афармлення тавараў за таваравытворцам (а ў праекце планавалася запісаць, што інфармацыя да спажыўца даводзіцца на ***беларускай і (альбо) рускай мове***), назіраецца поўнае ігнараванне інтарэсаў беларускамоўных спажыўцоў, якіх па выніках перапісу насельніцтва 3 млн. 670 тыс. чалавек. На маю думку, такое рашэнне камісіі стала магчымым, дзякуючы подпісам грамадзян пад патрабаваннем абавязаць вытворцаў выкарыстоўваць дзяржаўную беларускую мову ў афармленні тавараў. Мяркую, што такая ўзважаная і па-сапраўднаму дзяржаўная пазіцыя Дзяржстандарту паспрыяе ўсталяванню рэальнага дзвюхмоўя на спажывецкім рынку.

На жаль, у другім стандарце СТБ "Тавары харчовыя. Агульныя патрабаванні. Інфармацыя для спажыўца", які быў прыняты раней, выкарыстанне беларускай мовы пры афармленні тавараў застаецца неабавязковым. Спадзяюся, што Дзяржстандарт унясе змены і ў гэты дакумент. Каб наблізіць гэты час, Таварыства беларускай мовы сабрала некалькі тысячаў подпісаў грамадзян пад патрабаваннем выкарыстання беларускай мовы таваравытворцамі. Дадамо, што падпісныя бланкі працягваюць паступаць з розных куткоў Беларусі.

***Намеснік старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Сяргей Кручкоў.***
13 чэрвеня 2003 г.

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Шкірманкоў Фелікс–5000 р., Слаўгарад
2. Юрась з Менску – 5000 р.
3. Жучкова Наталля – 1000 р., Менск
4. Пятро Гуд – 20000 р.
5. Сп. Кажаневіч -- 30 дол., Англія
6. Чэчат Алесь – 10000 р.
7. Антон Фурс – 5000 р., Паставы
8. Нікалаюк Алена – 20000 р., Менск
9. Наведвальнікі пакою Максіма Багдановіча ў Севастопалі – 25 грыўн.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).





# Як спявалі, так і гулялі...

Мне даўно карцела напісаць што-кольвек пра футбол і наогул пра дух нашага спорту. Аднак не ставала таго апошняга імпульса, таго штуршка, калі больш маўчаць нельга, немагчыма. І от такой нагоды сталася футбольная сустрэча зборнай Беларусі з зборнай Аўстрыі. Вынікі гэтай сустрэчы вядомыя: пяць-нуль на карысць Аўстрыі. Такой паразы не чакаў ніхто. Але ці такая яна ўжо нечаканая?

Згадайма ўверцюру гульні... Гучаць дзяржаўныя гімны дзвюх краінаў: Беларусі і Аўстрыі. Ці заўважылі вы, як розна рэагавалі на свае гімны футбалісты? Аўстрыйская каманда фанаграму гімна сваёй краіны слухала душой і сэрцам, кожным жэстам, кожнай сваёй жылкаю: лучна, паяднана, знітаваная адзін з адным ланцужком сваіх рук. Дый шмат хто з іх спяваў родны гімн. А крайнія ў гэтым ланцужку слухалі гімн сваёй краіны з прытуленай да сэрца рукою. А вось поза футбалістаў з Беларусі пры гучанні нашага дзяржаўнага гімна... Усе, без выключэння, стаялі, як слупы. Ніхто з іх нават губамі не мыльнуў. Нават невядома: ведаюць яны той гімн ці не. Адным словам, гімн сам па сабе, а футбалісты самі сабе. Дык і нядзіва, што яны гэтак і гулялі... "А дзе няма мовы, там няма і галавы", - любіў некалі казаць вядомы наш мовазнаўца Хведар Янкоўскі. Спартыўныя каментатары шмат разважалі пра паразу футбалістаў з Беларусі, шукалі прычыну іх паразы: і саромелі іх, - маўляў, пасля такой гульні сорамна на вуліцы паказацца, заклікалі да патрыятызму, да ўсведамлення, што яны не проста гуляюць, а змагаюцца за гонар сваёй краіны. А от гэтага гонару, як мне падаецца, у футбалістаў з Беларусі якраз і няма. Дый скуль яму ўзяцца, калі пераважная большасць нашага грамадства жыве і надалей хоча жыць на адных матэрыяльных паняццях, без ведання народных традыцый, без павагі да мовы тытульнай нацыі, яе культуры...

Спартыўныя каментатары спрабавалі разгадаць прычыну інфантыльнасці футбалістаў з Беларусі; казалі, што гэтак далей не можа быць, што нешта трэба рабіць. Але што – ніхто не ведае. Адны выказваліся, што трэба Малафеева мяняць – вычарпаў свае рэсурсы, іншыя, што трэба футбалістам даць добры наганяй!.. А, можа, ім не наганяй трэба, а варта нейк далучыць іх да духоўнага жыцця Беларусі. Наладзіць ім, скажам, сустрэчы з нашымі гісторыкамі, паэтамі, спевакамі... Можа яны змогуць натхніць нашых футбалістаў, дапамогуць зразумець, што такое Радзіма, што значыць змагацца за яе гонар! Далібог гэта не зашкодзіла б!

Засмуціў футбольны рэпартаж не толькі безініцыятыўнай гульнёй, але і поўным ігнараваннем каментатарамі нашай роднай мовы. То адкуль жа тады брацца таму патрыятызму, да якога клікалі каментатары футбалістаў амаль не ўсе два таймы? А яно ж, роднае, - аснова ўсялякага патрыятызму. Футбол – гульня творчая. Яна тады цікавая, калі каманда ведае для чаго гуляе, увя імя чаго. Тады нават прагуляны матч не так балюча ўспрымаецца.

... Калісь казалі: "Кутузаў прыехаў біць французаў!" А футбаліст Кутузаў з беларускай рэчаіснасці, паводле слоў каментатара, пачуваў сябе на полі, як пешаход..." Трапна гэта прыкмечана. Дачаснікаў на Беларусі вельмі шмат. Нямала іх і сярод футбалістаў. Таму і поспехі беларусаў ва ўсім сціплыя. У футболе таксама.

З гэтай нагоды дарэчы пацікавіцца: чаму так званае Нацыянальнае тэлебачанне ў праграме "Панарама" спартыўныя навіны з пэўнага часу скіравала з беларускай мовы на расійскую . З вуснаў спартыўных каментатараў Паўла Булацкага і Паўла Баранава наша родная мова гучала натуральна, меладыйна, злітна з іхнімі словамі. У іх чыстая арфаэпія. То чым вастлумачыць замену мовы тытульнай нацыі на іншую? З чыйго загаду? З чыёй волі? Хто гэтак вольна распараджаецца ў нас мовамі?

Прафесар Мікола Савіцкі, з якім я неяк прыгадна абмяркаваў закранутую тэму, сказаў: "Я гэтак любіў гэтых двух хлапцоў!... а зараз яны для мяне якіясь чужыя, і я ў якойсь іншай краіне. З расейскай моваю яны для мяне зусім іншыя людзі... Не разумею, каму муляе наша родная мова ў нашай роднай старонцы!..."

Гэтыя нашы развагі з Міколам Савіцкім і ўражанні пра гульню футбалістаў з Беларусі і Аўстрыі – усё звёны аднаго ланцуга і адказ на пытанне, чаму гэтак бясскалерна гуляюць футбалісты з Белай Русі

...Чытачы "Нашага слова", мабыць, заўважылі: я ні разу не назваў футбалістаў з Беларусі беларускімі футбалістамі. Як мне падаецца, азначэння "беларускія футбалісты" трэба заслужыць, каб іх так называлі. Для гэтага трэба шмат папрацаваць. І не толькі нагамі, але і сэрцам і душою.

*Уладзімір Содаль.*

МАГІЛЁЎСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 28-а
т. 32-67-75, тэл./факс (0222) 22-02-83
mgec@pmrb.gov.by

МОГИЛЕВСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
212030, г. Могилев, ул. Первомайская, 28-а
т. 32-67-75, тел./факс (0222) 22-02-83
mgec@pmrb.gov.by

22.06.2003 № 2476/21

**Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Магілёўскі гарадскі выканаўчы камітэт на Ваш зварот № 144 ад 26.05.2003 г. паведамляе, што ўпраўленнем адукацыі сумесна з педагагічнымі калектывамі школ і дашкольных устаноў горада праводзіцца работа па рэалізацыі рэгіянальный "Праграмы дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі".

У 2002- 2003 навучальным годзе, адпаведна з гэтай праграмай, у сярэдняй школе № 5 г. Магілёва працуюць тры беларускамоўныя класы (дзевяты, дзесяты і адзінаццаты), у якіх навучаюцца 42 вучні. На павышаным узроўні беларуская мова вывучаецца ў 25 класах 644 вучнямі, беларуская літаратура – у 13 класах 323 вучнямі (Магілёўская гарадская гімназія № 1, нацыянальная гімназія, СШ №№ 8, 9, 17, 21, 22, 23,26, 28, 31, 33, 34, 35, 37, 40, 43,). У СШ № 15 г. Магілёва працягвае работу "этнакласс" (другі клас, 27 вучняў). Праграмай нацыянальнага выхавання "Я і мая Радзіма" ахоплены 1572 вучні нацыянальнай гімназіі г. Магілёва.

Праводзіцца пэўная работа па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў дашкольных установах горада, што дасць магчымасць у перспектыве вырашыць праблему беларускамоўнага навучання дзяцей з падрыхтоўчага класа. Арганізавана сістэматычная работа па азнаямленні дзяцей з беларускай мовай, нацыянальнай культурай.

У якасці апорных дашкольных устаноў з арганізацыяй комплекснай работы па беларускай мове вызначаны я\с №№ 25, 86. У гэтых установах адкрыты групы з беларускай мовай навучання (па адной групе для дзяцей 5-6 год). Да сумеснага выхавання дзяцей дашкольнага ўзросту на народных традыцыях далучаецца і бацькоўская грамадскасць.

Што тычыцца адкрыцця беларускамоўных класаў у 2003-2004 навучальным годзе, інфармуем, што гэта будзе магчыма пры наяўнасці заяў ад бацькоў з улікам мінімальна магчымай напаўняльнасці класа.

Зараз разглядаецца пытанне аб адкрыцці беларускамоўнага класа (падрыхтоўчага) у СШ № 35 г. Магілёва.

З павагай,

**Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама І. У. Васільчанка.**

# Сябрам ТБМ час ісці ў лес

Абапал дарогі Менск-Горадня натыкана мо сотня, мо болей розных "лясных знакаў", якія просяць берагчы лес ад агню, патушыць недапалак, шанаваць прыроду і г. д. Але на працягу 300 км па лясгасах Менскага, Валожынскага, Івейскага, Лідскага, Шчучынскага, Гарадзенскага раёнаў у вока ўпаў толькі адзін камень з надпісам на беларускай мове (у Лідскім раёне, недалёка ад левага берага Дзітвы). Астатнія, вядома ж - па-расейску. З такой сітуацыяй можна было б пагадзіцца, калі б дырэктары лясгасаў патлумачылі, што гэтыя знакі ставяцца спецыяльна для некультурных расейцаў, якія не ўмеюць сябе паводзіць у нашых лясах. Сваю тайгу спалілі ды едуць паліць нашыя лясы. Аднак справа якраз выглядае зусім інакш. У нашых лясгасах, як у сапраўдных мядзведжых кутах трывала атабарылася расейшчына. Аднак "лясныя" знакі і лясная бухгалтэрыя розныя рэчы. Прыдарожныя лясныя знакі і надпісы -- гэта такі ж твар дзяржавы, як і геаграфічныя назвы населеных пунктаў, і на іх павінны дзейнічаць тыя ж законы. ТБМ мусіць узяцца і за гэтую сферы побыту, бо больш няма каму, а далей так быць не можа.




*Я. Грынкевіч.*

# На розных пазіцыях

Багданаўская пачатковая школа, што на Сенненшчыне сустрэла мяне звычайным гоманам дзетак. Быў перапынак ад заняткаў. Ля сцен школы корпалася ў зямлі нейкая жанчына, рыхтавала глебу для кветніка, побач ляжалі клубні вяргіняў. Чуліся яе рускамоўныя ўказанні дзецям, а яны адказвалі па-вясковаму – на трасянцы. На мой "Добры дзень"пачуў: "Здрастуйце".

- Я, Лавіцкі Мікола, - адрэкамендаваўся я, - у 1960 годзе закончыў тут сем класаў...

- Мае словы на жанчыну не зрабілі аніякага ўражання. Выйшла на ганак яшчэ адна жанчына, яны перакінуліся словамі аб нечым таксама па-руску. На мой "Добры дзень" ёй, адказала тым жа: "Здрастуйце".

- Дазвольце запытаць, - пытаюся, - школа зараз беларуская?

- Да.

- А вы хто будзеце?

- Учыцельніца

- А чаму, школа беларуская, а вы размаўляеце па-руску, дзеці ж размаўляюць не па-руску.

- А пакажыце хоць аднаго, который говоріл бы чісто па-белорускі

Давялóся тлумачыць, чаму стала штучнай мовай лацінская, што такое побытавая мова, гутарковая, дыялекты, што жывая мова ёсць крыніца для класічнай, нармаванай мовы.

- А чаму ж вы не жадаеце, каб яны гаварылі чыста па-беларуску. Гэта ж не іх віна, а іх настаўнікаў.

Гэтыя словы "учіцельніца" не пачула, яны прагучалі ёй наўздагон.

- Ну а вы як лічыце? Давайце пазнаёмімся! -- звярнуўся я да жанчыны, што рабіла кветнік.

- Я по происхождению русская, живу в деревне Немойта, директор этой школы *(Прозвішча не назвала – М.Л.)* Окончила педуниверситет не в Белоруси. Учебный процесс ведётся по-белорусски. Однако, у нас двуязычие, потому я говорю по-русски...

- Але ж вы дзяржаўны службовец, і згодна з аднаведным палажэннем павінны валодаць дасканала дзвюмя мовамі. Вы ж працуеце ў беларускай школе, дзе павінна быць усё па-беларуску, а не на дзюхмоўі, тым больш, у пачатковай школе.

- Мы с вами на разных позициях...

На гэтым і скончылася наша размова. Мяне абступілі дзеткі. Іх зацікавіў мой ровар, кожная яго дэталь. Яшчэ больш уразіла, што прыехаў на ім аж з самога Менску. Гутарка адбылася цёплая і шчырая, бо вялася на роднай мове. І вучыцца яны хочуць так, як зараз, па-беларуску.

- А пасля гэтай школы куды пойдзеце вучыцца?

- У дзяржаўную Нямойта, вось там нагаворышся па-руску, адказаў хлопчык з ямачкамі на шчоках. – Там школа руская.

- А запытайцеся ў бацькоў, кажу ім, - ды і самі падумайце, чаму у беларускай вёсцы ды руская школа.

Старшыня суполкі Таварыства беларускай мовы г. Сянно Алесь Лазюк дапоўніў, што такі стан, як у Багданаўскай, не адзіны ў раёне.

Не выходзіць з галавы гэтая гутарка, сустрэча з дырэктарам, фактычнам русіфікатарам. У тыя гады, калі я вучыўся, такога не было. Падумалася: "Мо таму і не адказаў спадар Міністр адукацыі П. І. Брыгадзін праз "жывую лінію", што ладзіла газета Звязда" на маё пытанне: як ён разумее паняцце "нацыянальны", каб не апынуцца ў вобразе гэтай спадарыні – дырэктара пачатковай школы, якая фактычна стаіць не на шляху вяртання роднай мовы і барацьбы за яе чысціню, а як раз на іншай пазіцыі.

*Мікола Лавіцкі.*

